# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР



ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ








№ 5. ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР 1926 г.



# Парады павадыру зьвяна.

### Як наладзіць экскурсіі.

У сувязі з надыходам летняга часу піонэрскім атрадам трэба будзе разгарнуць вялікую працу,— асабліва ў гарадзкой організацыі. Частка атрадаў паедзе ў лягеры, частка застанецца ў горадзе.

Аднэй з галін працы атраду ў летні час—зьяўляецца правядзеньне экскурсіяў. Яны будуць (і павінны) праводзіцца ня толькі ў горадзе, але й на вёсцы.

Якія задачы павінны быць пастаўлены перад экскурсіяй? Іх, у аснаўным, дзьве:

Узмацненьне здароў'я піонэраў, набыцьцё сілы і энэргіі. Зьбіраньне матэрыялаў па вывучэньню мясцовага краю (запісы, азнаямленьне з бытам, мясцовасьцю і г. д.).

Посьпех правядзеньня кожнай экскурсіі залежыць ад таго, як будзе праведзена

### падрыхтоўка.

Загадзя, прыблізна за тры месяцы, атрад, намячаючы плян сваёй працы, павінен таксама намеціць колькі і, прыблізна, калі і якія павінны быць праведзены экскурсіі. Мэты экскурсіяў бываюць розныя: азнаямленьне з мясцовасьцю, акаляючай горад альбо вёску, куды цячэ і адкуль бярэ свой пачатак рэчка, колькі жыхароў у вёсцы, якая знаходзіцца каля гораду, колькі там маецца піонэраў і якую яны праводзяць працу, дапамога ў працы атрада, калі ён падшэфны атраду, які выходзіць на экскурсію.

Такія экскурсіі павінны падняць узровень тэорэтычных ведаў піонэраў і даць асноўныя паняцьці аб тых ці іншых пытаньнях.

Значнае месца ў кожнай экскурсіі павінна заняць аздараўленьне. З гэтаю мэтаю трэба праводзіць гульні, купаньне, сьпевы. Часьцей за ўсё прыдзецца праводзіць экскурсіі ў лес—тады можна правесьці працу па азнаямленьню з пародамі лесу, гэта дасьць мажлівасьць некаторым чынам праверыць веды, атрыманыя піонэрамі ў школе па прыродазнаўству і г. д.

Такім чынам атрад перш чым выходзіць на экскурсію павінен загадзя ўявіць сабе з якой мэтаю ён ідзе на экскурсію і на што галоўным чынам прыдзецца зьвярнуць увагу.

Прыкладна, за два-тры дні да экскурсіі аднаму трэба даручыць дасьледваць мясцовасьць, куды накіроўваецца атрад. Зьвяно павінна вызначыць адлегласьць, месца адпачынку—астаноўкі. Мясцовасьць павінна адпавядаць наступным запатрабаваньням: быць недалёка ад закрытага памяшканьня на выпадак дрэннага надвор'я, калі ў лесе, то трэба каб была чыстая, роўная пляцоўка, дзе можна было-б праводзіць гульні. Гэта пляцоўка павінна быць каля рэчкі, каб можна было наладзіць тут купаньне.

Пасьля таго, калі зьвяно выканае сваё заданьне, г. з. знойдзе добрую мясцовасьць, трэба на зборы атраду расказаць аб усім гэтым піонэрам і тут-жа абвясьціць,

### што трэба ўзяць з сабою.

Кожны піонэр павінен узяць з сабою запісную кніжку і аловак для запісаў, захапіць дома харчоў (хлеб, масла, малако і г. д. Ня варта браць з сабою нічога салоннага, як, напрыклад, селядзец, бо гэта толькі павялічвае смагу).

Павадыр павінен узяць цікавую кніжку для чытаньня, сьцяг, калі ёсьць—барабан, хатнюю аптэчку (зьвяно „санітар“). Пасьля такое падрыхтоўкі трэба абвясьціць месца і час збору для адпраўкі ў паход, зьвярнуць увагу на недапушчэньне спазьненьняў.

Экскурсія павінна праводзіцца па строга вызначанаму пляну, а плян павінен складацца на аснове дасьледваньня загадзя мясцовасьці. У пляне трэба намеціць усё магчымае для правядзеньня экскурсіі.

### Чым заняцца на экскурсіі.

Пасьля таго, як піонэры прышлі на месца, трэба наладзіць 20-ці хвілінны адпачынак. (Адпачынак можа быць большым і меншым у залежнасьці ад таго, якая адлегласьць пройдзена піонэрамі).

Пасьля адпачынку паміж зьвеньнямі разьмяркоўваецца праца: аднаму, напрыклад, даручаецца дасьледваць, якія пароды лесу растуць у данай мясцовасьці, другому—зьвязацца з вясковымі дзецьмі, трэйцему загадзя сабраць у адно месца ўсе харчы, каб пасьля наладзіць колектыўны абед або сьняданьне і г. д.

*(Глядзі 3 стар. вокладкі).*




УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| | |
|---|---|
| на 12 м. | 2 р. 40 к. |
| на 6 м. | 1 р. 20 к. |
| на 3 м. | — 60 к. |
| на 1 м. | — 20 к. |

ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ
ОРГАН
ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
Менск, Пляц Волі,
Наркамасьветы БССР
— тэлефон № 443. —

**№ 5. МАЙ 1926 г.**

# Якімка аграном

Зусім малым быў яшчэ Якімка, як застаўся ён адным, без сваіх бацькоў.

Напалі на вёску польскія банды, прышлі к бацьку ў хату, спыталі:

— Ты старшыня?

— Я!

— Ну, і атрымай... і куля стрымала яго на гэтым.

Маці кінулася к бацьку с плачам, але было ўжо позна. З кулакамі накінулася яна на афіцэра, схапіла яго за грудзі, а ён і з маткай гэтак сама расправіўся.

Забілі і пашлі.

Вылез з-запечку Якімка, доўга тузаў бацьку з маткаю, але больш ня ўсталі яны, каб прытуліць свайго Якімку.

Якімка горка плакаў...

Сабраліся вяскоўцы і сходам парашылі ўсяліць к Якімку ў хату старога пастуха Хвёдара, каб працаваў на гаспадарцы і карміў Якімку. Парашылі і зрабілі...

Перайшоў Хвёдар на жыцьцё к Якімку, спадабаў яго, як роднага сына, вучыў яго гаспадарыць.

—Вучыся, Якімка, як трэба працаваць, даглядаць жывёлу. Усё тваё. Вырасьцеш, будзеш добрым гаспадаром, як і твой бацька,—гаварыў Хвёдар.

Першыя часы ніяк ня мог прывыкнуць Якімка да новага свайго бацькі-пастуха: ўсё думаў аб бацькох; цэлымі днямі праседжваў на магілах бацькоў.

Прышла зіма. Зноў пачаў хадзіць у школу Якімка. Настаўнік стараўся адцягнуць хлопчыка ад сумоты. Часта прыходзіў к яму дамоў, вучыў яго маляваць, чытаў розныя кніжкі, але лепш за ўсё Якімка слухаў аб жыцьці расьліны й жывёлы.

Прышла вясна. Усе працуюць на полі, а Якімка цэлыя дні праводзіў у садзе. Абчышчаў кару на дрэвах, абразаў сухія гучкі, капаў, сеяў, садзіў. Часта прыяжджаў з дедам Хвёдарам на поле, памагаў яму працаваць. Ня раз пытаў яго Хвёдар:

—Пашоў-бы ты, Якімка, пагуляў з дзецьмі ў бабкі, ці не надакучыла табе працаваць?

Якімка паглядзіць на Хвёдара моўчкі, ды скажа:

— Не, не пайду...

Адзін раз прыехаў аграном праводзіць гутарку па сельскай гаспадарцы. Пашоў і Якімка паслухаць аб чым будзе гаварыць аграном. Расчыніўшы рот слухаў ён агранома. Кожнае слова запала ў душу хлопчыка. Пасьля гутаркі, як усе разышліся, падышоў Якімка к аграному і сказаў:

— Дзядзячка, я хачу быць такім, як ты... дай мне кніжачак пачытаць...

Паглядзеў на яго аграном і спытаў:

— Ты чый, хлопчык?

— Я—сын старшыні Міхася, якога забілі белыя.

— Ведаю твайго бацьку, ды як ня ведаць, часта быў у мяне. Бывала ўсё гутарылі аб сельскай гаспадарцы, як лепш працаваць на зямлі...

— Вось што, хлопчык: ты прыдзі да мяне ў школу ў сяло Зарычаны. Я табе дам кніжак, прыдзі ў нядзелю.

Ня мог дачакацца Якімка нядзелі, каб пайсьці да агранома. Нікому не сказаў аб сваіх замерах.



У нядзелю, чуцьсьвет, Якімка быў ужо ў агранома. Ходзіць кругом школьнага саду, ня ведае куды яму ісьці, забыўся спытаць, як зваць агранома. Бачыць у садзе капаецца нейкі чалавек, падышоў к яму і спытаў:

Скажы, дзядзячка, дзе тут найці агранома?

Пазнаў яго аграном.

— Эх, ты, маладзец! што не пазнаў мяне? я сам і ёсьць аграном...

Абрадваўся Якімка і чуць выказаў:

Я прышоў к табе за кніжкамі, ты абяцаў...

— Пойдзем, я табе раней пакажу што небудзь...

Павёў Якімку аграном на паказальнае поле школы, якое апрацоўвалі самі вучні. Растлумачыў аграном Якімку, як трэба даглядаць за расьлінай, сеяць хлеб, вадзіў у сад, агарод, хлеў. Гарэў Якімка ад радасьці, яму больш спадабалася, як цялята жывуць, як у іх чыста й хараша.

— Ну, а кніжак ты мне дасі?—спытаў Якімка, калі ўсё агледзеў.

— Дам, дам,—сказаў аграном і павёў яго ў школу.

У школе сабралася шмат хлапчукоў і дзяўчатак. Сядзелі яны і аб нечым гаманілі. Калі ўвайшоў аграном, усе паздароваліся з ім і сказалі:

— Сягоньня ў нас організацыйны сход сельска-гаспадарчага гуртка і разьмеркаваньне працы.

Засталіся і аграном з Якімкам паслухаць. Якімку вельмі спадабалася, як дзеці, такія як і ён, разьмяркоўвалі працу між сабою: працу ў садзе, агародзе, і даглядалі за жывёлай. Калі скончыўся сход, аграном падышоў к дзецям і сказаў:

— Дзеці, прымеце ў свой гуртох гэтага хлопчыка,—ён сын забітага старшыні з суседняга сяла і вельмі цікавіцца сельскагаспадарчай працай.

Дзеці абхінулі Якімку, абсыпалі яго пытаньнямі. Якімка спачатку па незнаёмству маўчаў, а пасьля бойка даваў адказы на ўсе іх пытаньні.

Запісалі Якімку ў сельска-гаспадарчы гурток і сказалі, што сходы—па нядзелях, а працаваць будзеш у сябе дома. Далі яму кніжак.

Прышоў Якімка дамоў вельмі здаволены і вясёлы. Расказаў аб усім дзеду Хвёдару.

— Ну што-ж, хлопча, справа добрая,—сказаў Хвёдар.

Многа перачытаў кніжак Якімка, кожную нядзелю хадзіў на сходы. Працаваў дома па кніжкам і па радам агранома.

Мінула два гады. Якімка ўжо—Старшыря сельска-гаспадарчага гуртка. Дома вядзе культурную гаспадарку. Організаваў вакол свайго гуртка ўсю вясковую моладзь. Часта Якімка хадзіў і ў хатучытальню. Перачытаў усе кніжкі. На вёсцы ўсе ведалі, што Якімка працуе на гаспадарцы па вучонаму пад кіраўніцтвам агранома. Спачатку глядзелі на гэта няпрыемна, пасьля, як убачылі, што ў Якімкі і хлеб расьце лепш, і яблыкі ў садзе, і ў агародзе больш сталі прыглядацца к маладому „агроному“.

Якімка бязупынна працаваў з моладзьдзю. Рабіў даклады на сходах комсамольскай ячэйкі. Усіх вучыў, як трэба стаць культурнымі гаспадарамі. Кожную нядзелю Якімка гутарыў з старымі, як лепш апрацоўваць зямлю. Усе дзівіліся адкуль Якімка набраўся такіх ведаў, гаворыць, як аграном. Сталі паважаць старыя Якімку. Ідуць да яго за парадамі, што пасеяць на гары, як весьці барацьбу з казяўкамі, якія псуюць дабро іх, як выбраць лепшую карову на рынку. На ўсе пытаньні Якімка даваў разумныя адказы. На адным з сходаў ячэйкі Якімка падаў заяву аб прыняцьці яго ў комсамол. Усе аднагалосна ўхвалілі прыняць Якімку сябрам комсамолу. У ячэйцы Якімка яшчэ больш узяўся за працу. За актыўную працу ячэйка ўхваліла паслаць Якімку вучыцца ў горад на Рабфак.

**Е. П. Чарнецкі.**



...У Якімкі і хлеб расьце лепш, і яблыні ў садзе...

# Лугі квяцістыя.

*(З вершаў „Дзяцінства“).*



* * *

Лугі,
Гаі квяцістыя,
Крыштальныя,
Расістыя—

Дзяцінства сьцежкі мілыя...
І пушчы палахлівыя
І зоры прамяністыя!—

Багаты вы ўспамінамі
І вольнасьцю разгульнаю!
. . . . . . . . . .
Цьвіло жыцьцё малінамі,
Квітнела краскай буйнаю...

* * *

Над сіняю далінаю
Кудравай верхавінаю
Зьвісае беразьняк—
Вясновы маладняк.

Нібы дзіцё,
павольненька
Калыша вецер голейкі.
Як родным,
як сваім,
Сьпявае песьню ім.

Качаюцца,
Купаюцца,
Па лузе рассыпаюцца
Малыя пастушкі—
Дзяўчаткі,
Хлапчукі.

Іх шумы гулка-звонныя,
Іх песьні ладам стройныя,
Нібы вясны разьліў,
Нясуцца між далін.

* * *

Вясёлы час,
Найлюбы час,
Як „пігар“ пойдзе у работу,
Як друкам „жараць“ тут з пляча
З такой заўзятаю ахвотай!

— Чакай, Якім!
Дай я зьніму!..
— Цалок з цябе, як з Янкі куля!..
Сусед паважна твар надзьмуў,
Ды—трах з пляча—
Якіму ў „дулю“...

Сьмяялась сонца з хлапчукоў,
Ды самі клаліся са сьмеху.
І толькі водгук між кустоў
Каціўся гучным, звонкім рэхам.

А пойдуць спрэчкі за гульню—
Тады густы разьляжа гоман:
— Ах, ты такі-сякі сьлімюк!..
. . . . . . . . . . . .
Адзін другога перагоніць...

Няма журбот, няма тут суму
У сонцавеі залатым.
Разносіць ветрык песьні, шумы
На маладчавы гай густы.

*А. Якімовіч.*



# У падвале

*З збору апавяданьняў* **„Сьлёзы“.**

I.

Сьвет быў вялікі: за дзеравянаю канцавою вуліцаю мураваны грымучы горад, а з другога боку вуліцы—ціхае і неабдымнае поле. Як глянеш у поле—людзей там ня відаць, толькі прастора маўчыць у задуменьні. А на вуліцы і далей у горадзе—трудна прайсьці за людзьмі... І твары у гэтых людзей клапатлівыя і чужыя. І чым далей ад гэтае дзеравянае, апошняе ў горадзе вуліцы, чым больш незнаёмага пападаецца перад вачыма, тым цікавейшым і прывабнейшым усё здаецца, і сьвет усё шырэйшым і неабдымнейшым. Загэтым і той нізкі падвал з даўно беленымі сьценамі і цяжкаю стольлю, дзе жыў Анця з маткаю, здаваўся толькі часовым прытулкам, куды трэба было зьяўляцца ўвечары спаць, а ўдзень абедаць, ды зімою сядзець, калі вельмі ціснулі маразы і халодны стары матчын кафтан нічога не памагаў... Зімою было горш, а летам было зусім добра...

Анця не памятаў бацькі, ня мог нават уявіць сябе, які ён мог быць? З маткаю гаварыў мала і неяк ня любіў яе; ці то можа проста баяўся, бо яна раніцою, няма вядома нашто, будзіла яго, калі яму хацелася спаць, увечары гнала дадому, калі яму хацелася гуляць і зімою часта не давала свайга кафтана, калі яму вельмі-ж хацелася быць на дварэ...

Матка па цэлых днёх і позна начамі мыла людзям бялізну, насіла цяжкімі вёдрамі ваду і мала зьвяртала ўвагі на Анцю: дасьць яму есьці і пачынае сваю работу і нічога не гаворыць. Нават часам зусім выяўлялася тое, што яна ня любіць Анці. Бывала, што без ніякай прычыны, адцягне яна ад сябе Анцю за вуха, калі ён уздумае пабоўтаць ваду ў ночвах, дзе мокне бялізна. І Анця жыў сам сабою; зьяўляўся дадому позна, мурзаты і часта мокры, з разарванаю адзежаю і часам з сінякамі на лбе. Тады маці моцна на яго крычала і гаварыла суседзям і яму, што з яго нічога ня будзе, што з Анці выйдзе басяк і жулік, пачынала плакаць і біць яго; і ён пачынаў плакаць і стараўся ўцячы. Выбегшы на двор, ён садзіўся над вакном, выціраў прыполам сарочкі вочы і твар і было яму чутно, як маці моцна скардзілася на сваю горкую долю. І яму тады здавалася, што гэта сапраўды ён вінават і хацелася яму пашкадаваць матку, але раптам прыпамінаў, як яна біла яго і зьяўлялася ў яго і злосьць і цяжкае, горкае непаразуменьне,—хто гэта тут ува ўсім гэтым вінаваты?.. Пасядзеўшы так трохі, Анця бег далёка ад свайго дому і зусім забываў праз усё гэта, лазячы між людзей па вуліцах ці па загародных агародах...

Апошняю зімою хадзіў Анця ў піонэрскі атрад і калі прыходзіў вечарам дадому, адчуваў сябе як-бы старым і сталым чалавекам, які зрабіў якую небудзь вялікую і цяжкую работу...

Тады ў яго менш стала зьяўляцца нездавальненьня ад таго, што маці нейкая, як-бы чужая яму і яшчэ больш падвал той з параю ад гарачай мыльнай вады, дзе жыў ён, стаў здавацца яму, як-бы чужым, часовым прытулкам, дзе трэба толькі пераначаваць і ўцячы, каб маці нават і ня бачыла, а пасьля зьявіцца абедаць, каб паабедаўшы зноў згінуць адсюль.

Раз Анця падслухаў такую гаворку мацеры з суседкаю:

— Жыцьцё праклятае,—гаварыла маці грубым сваім голасам,—жывеш адна між людзей і ніхто табе слова чалавечага ня скажа ніколі...

Анця зашавяліўся ў кутку нехаця і маці азірнуўшыся крыкнула ў яго бок:

— А гэты, жулік, басякуе па вуліцах, хоцьбы ён дзе шэльма голаў зьвярнуў...

— Чаго ты лаешся?—панура сказаў Анця.

— Ідзі ўжо, ідзі... таксама панура крыкнула на яго маці і штурхнула лёгка яго ў голаў.

Анця пашоў паволі ў сені, пастаяў там трохі і вышаў на вуліцу. Там убачыў, як малыя, такія як ён, хлапцы папорваліся з шарманшчыкам і ён пабег туды і зайшоў з усім далёка ў горад.

---

*) Падвал—памяшканьне ў зямлі, над першым паверхам лявікіх дамоў.

II.

Шумна было на шырокай гарадзкой вуліцы. І трэба было на кожным кроку сьцерагчыся, каб не папасьціся ў бяду,—могуць малога растаптаць людзі, што цэлымі натоўпамі сьпяшаюць некуды, пасярод вуліцы можа пераехаць аўтомобіль... І хоць быў вельмі да гэтых грымучых вуліц прывычны Анця, а ўсё-ж неяк пабайваўся і азіраўся па бакох, пераходзячы ўпоперак вуліцу.

Было тады блізка да вечару. Два тыдні ўжо, як сышоў сьнег і вуліцы пачыналі пылець. Было горача нават Анцю, бо разагрэўся ён, моцна бягучы перад гэтым. Ён азіраўся й перабягаў на другі бок вуліцы і тут над самым вухам яго загуў аўтомобіль. Анця кінуўся ў бок, а тут пёр некуды матацыклет і ўжо ня было тут куды дзецца малому, ня можна было пасьпець зрабіць што. Анця закруціўся на адным месцы, а машыністы ня мог зразу спыніць машыну і матацыклет моцна штурхануў Анцю ў бок. І ні то-што, каб вельмі моцна Анцю зразу забалела, а страх нейкі аглушыў яго, а боль зьявілася праз хвіліны дзьве і Анця моцна пабег упоперак вуліцы, не разьбіраючыся куды бяжыць. І ўжо падбегшы да нейкай вялікай белай сьцяны, адчуў раптам, што страшна моцна баліць і пячэ нейк там, дзе стукнула машына. Цяжка стала дыхаць і бегчы яму і ён кінуся на ўсходы каменнага ганку. Каля яго пачалі раптам зьбірацца людзі:

— Дом дзе твой?—груба запытаў у яго нейкі чалавек.

— Гэта-ж міліцыянэр?!—вяла падумаў Анця і страх нейкі ахваціў яго.

Страшнымі сталі і людзі, што зьбіраліся каля яго і праходзілі міма, страшным стаў гул, што йшоў аднекуль, страшным стаў змрок вечару, што навісаў ужо над горадам.

— Дом дзе твой?—зноў сказаў міліцыянэр.

— На Дзеравяннай вуліцы,—палахліва адказаў Анця.

І здалося яму тады, што нешта зараз пачнуць рабіць з ім страшнае і пакутнае для яго.

Міліцыянэр раптам падхваціў яго пад пахі і ўсадзіў у нейкую брудную каламашку. Сам сеў і пасадзіў яго на калені, і загадаў фурману ехаць.

— Баліць?—запытаў міліцыянэр, нагінаючыся да яго твару.

— Не!—адказаў Анця, баючыся, што калі скажа „баліць“, то яго будуць ушчуваць за гэта.

Яны доўга ехалі па крывых вуліцах, каламашка моцна падскаквала па бруку і ад гэтага больш яшчэ балела Анцю.

— Каторы дом?—сказаў міліцыянэр.



Матка мыла людзям бялізну.

Анця паказаў моўчкі рукою. Каламашка прыпынілася і міліцыянэр панёс на руках Анцю ў дом.

На дварэ гусьцеў вечар.

III.

Ніколі Анця не баяўся так мацеры, як цяпер. Раней ад яе можна было ўцячы, калі адчувалася, што можа яна біць. Калі мякчэйшай была яна, нават трохі жартаваў з ёю Анця, а гэта востры, ніколі раней не перажыты, страх ахваціў яго. Здалося яму, што падвал цяпер—гэта пастаяннае месца для жыцьця, а сьвет вакол—гэта часовы прытулак.

Міліцыянэр пасядзеў трохі, разьдзеў Анцю, агледзеў яму бок і там трохі шкура была абшморгненаю. Анцю балела, але думаў ён: „пачні плакаць, то горш будзе, трэба маўчаць, як-бы нічога й ня здарылася“. І тады больш ўсяго захацелася яму, каб усё было ціха, каб забіцца дзе небудзь у цёмны куток ды сьцішыўшыся перапакутаваць там пакуль пакіне балець.

Міліцыянэр вышаў і маці, што сказала толькі некалькі слоў, цяпер зусім змоўкла. З закасанымі, мокрымі рукамі яна стала сярод раскіданай па падлозе бруднай бялізны, і, нейк іначай як заўсёды, пачала глядзець на Анцю. І так яна глядзела на яго, што ня мог Анця трымацца больш так, як намерыўся; мацярыны вочы раскідалі і перавярнулі ўсё, што было ў яго на душы. Анця, як сядзеў на падлозе, так нагнуў галаву сабе да кален, памаўчаў так з паўхвілінкі і раптам, для сябе самога нечакана моцна заплакаў. Тады маці паволі падышла да яго, пагладзіла трохі яму сумную і задумёную галаву і раптам села на падлогу поплеч з ім. І таксама нечакана для самой сябе абняла Анцю мокрымі рукамі і так моўчкі сядзела. Анця падняў сарамліва галаву і ўбачыў, што па яе твару ціха цякуць сьлёзы. І Анця мацней яшчэ, з нейкім ціхім крыкам, заплакаў.

. І доўга яны так сядзелі.

За вокнамі ляжаў цёмны вечар, у кутках падвала было цёмна. Адтуль выпаўзалі чорныя тараканы шавялілі сваімі доўгімі вусікамі. Густа паіхла мокрай бялізнай; пара з мыльнай вады згушчалася пад стольлю. Чырвоны сьвет лямпы патроху цямнеў.

А яны ўсё сядзелі абняўшыся. Анця суцешыўся, асушыўся ад сьлёз і твар мацеры. Ніводнага слова не сказалі яны адзін аднаму, і ўсё маўчалі так.

І доўга яны так сядзелі абняўшыся, ахвачаны новым для іх і важным для людзей шчасьцем блізасьці між сабою.

Ужо была глубокая ноч. І ў падвале тольні чутно было як на вуліцы нехта захаладжаным і хрыплым ад бяссоніцы голасам паганяў каня.

**Кузьма Чорны.**

# Сьвеціць месяц і ня грэе...

(На мотыў „Взвейтесь красными орлами“).

Сьвеціць месяц і ня грэе,
Узышла ў далі зара.
Над ракою чырванее
Піонэрыя ў кастра.

Прыпеў:

Гэй, у лягерах на волі
Крэпне цела юнакоў!
Мы рыхтуем комсамолу
Зьмену моцную байцоў.

Ой ты, месяц, любы браця,
Мы здружыліся з табой.
Нашай юнай вольнай раці
Тут раздольле і спакой.

Прыпеў...

Іскры сыплюцца наўкола
І шугаюць пры агні.
Нашай песьняю вясёлай
Абудзіліся гаі.

Прыпеў...

Кацялок плюскоча з бульбай,
Дражніць нашы жываты.
Гэй, жывей, жывей ты булькай,
Узьвівайся сівы дым!

Прыпеў...

Сьвеціц месяц і ня грэе,
Узышла ў далі зара.
Хутка, хутка і вячэра:
Аддыхаці нам пара...

**А. Ч.**




**Казка Якуба Коласа *).**

VI

Прывялі карася пад канвоем,
Абступілі яго шчыльным роем.
Плотачка як глянула,
Чуць на дно ня канула:
Такі-ж ён няшчасьненькі,
Кругленькі, блішчасьценькі!
Лін паплыў пад лозы—
Выцерці там сьлёзы.
Нават сом крануўся,
Хвост яго сагнуўся.
І вусы задрыжалі
Ад гэтакага жалю.
Пытае сом лагодна,
Як-бы той ойча родны:
— Ну, як жывеш, карась?
— А так сабе, ня дрэнна—
Качаюся, як князь,
Прысмакі ем штодзенна.—
Зьдзівілася тут рыб'я грамада:
Вось выпаліў, дык выпаліў, брыда!
А ялец той схаваўся ад стыда.
— Цікава,—кажа сом,—цікава!
Зьдзівіў ты нас, карась, ей права!
Ну, а скажы: ты смуцішся ці не?
— Чаго смуціцца мне?
Ня ведаю такога пачуцьця—
Цярпець я не магу ні смутку, ні ныцьця!
І часу не хачу на тое глупства траціць:
За глупства гэтае ніхто мне не заплаціць!
— Ты кажаш—траціць часу.
Навошта-ж траціш час?
— А вось які мой сказ:
Люблю поэзію, жыцьця майго украсу,
І з ёю я ня ведаю згрызот;
Поэзіяй і смутак адганяю—
Зашыюся ў чарот
І вершы там складаю.—
Зьдзівіўся сом, вачамі ўскінуў язь
І кажа карасю: „Поэт ты наш, карась!
Гаворыш складна ты,
Паслухаць цябе люба,
Мы слухалі, разьзявіўшы раты,
Хоць ты адказываў і груба.
Я хачу цябе спытаць:
А што будзеш ты сьпяваць,
Як часамі кульганеш
Ды на прыпек пападзеш?
Людзі любяць карася,
Ну, ня менш, як парася.
— Папаўся брат карась!
Поэзія тут—лясь!
— Ня згодзен з вамі, грамадзяне!
Калі мой час настане,
І лягу я ў скавараду,
То й вусам я не павяду:
Карась папесьціцца ў сьмятане!—
Засьмяяўся сом.—А няхай ты згары!
Дзівакі, як відаць, песьняры,
Мабыць, розум у іх слабаваты,—
Адпраўляйся, карась, ты да хаты!..
Пачакай! ці ня ведаеш, брат,
Хто па часьці няшчасьця тут хват?
— Пра пакуты чарот мне шумеў,
Але слухаць я часу ня меў.

VII

Паслалі дэлегацыю
Да таго чарата,
Хоць думалі, што з гэтага
Ня выйдзе ні чарта.
Была тут пара плотачак,
Акуньчык і кялбок,
Чароту пакланіліся
І кажуць: „Галубок!
Паслалі нас, чаротанька,
Ад рыб'яй грамады
Прасіць цябе і кланяцца,

*) Гл. № 4 „Б. П.“.

Каб вызваліў з бяды
Рака таго няшчаснага,
Што ўздумаў уміраць—
На сонейка, на яснае
Ня хоча пазіраць.
Мы ведаем, чаротанька,
Што ў сьвеце ты адзін
Дасі яму ратуначак,
Узрадуеш рыбін.
Раскажаш шчыра ты яму,
Як цяжка табе жыць
І што раку няма чаго
Згрызацца і тужыць.
Дык будзь-жа ласкаў, міленькі,
Паслухай, паслужы,
І мудрасьць сваю ты яму
І гора пакажы.
А справу тую выпаўніш,
Запішам мы цябе
На дошчачку чырвоную,
На вербачку зялёную
Мы вывесім яе.
— Ша-ша-ша! шу-шу-шу!
Упартасьць я скрышу
Рачынаю шурпатаю:
Нягодамі багатую
Як долю раскажу,—
Зражу! Шу-шу! Ссушу! Ша-ша! І-ша!

VIII.

Рак сядзіць у нары,
Высунуўшы клешні,
І ня есьць ні ікры, ні тае яешні.




Ну, чакай-жа, брат рак:
Унь ідзе чароцік!
Рыба валіць пад гак,
Расчыніўшы роцік,
Плёх стаіць на вадзе—
Няма месца нідзе!
Стаў чарот у позу
Проціў вербалозу.
На рака-бядака
Ён глядзіць звысака.
— Ша-ша-ша! шу-шу-шу!
Увагі, рача, я прашу.
Рача-рача! ёсьць на сьвеце
Многа нешчасьлівых.
Вылезь з норкі, рача-квеце!
Смутак твой—ня дзіва.
Я гаротнік, якіх мала,
Ты паслухай толькі:
Я на грунце нятрывалым
Распускаю голькі.
Распускаю іх вясною
Ў часе халадэчы.
Веюць ветры нада мною,
Ломяць мае плечы.
Сам я толькі, сам я кволы,
Хоць і праўда гібкі.
Як сьцялюся я над долам,
Няхай скажуць рыбкі.
Я адзін, няма заслоны,
Не растуць там лозы,
А мой лісьцік, мой зялёны,
Смокча тля стракозы.
Я люблю прасторы сонца,
Я цягнуся ўгору,
Ды ў каленях маіх донцы
Шкарлупяць ня ўпору.
Я-б хацеў стаць, як калода—
Быць магутным—люба,
Ня судзіла-ж мне прырода
Стаць мацней ад дуба.
Рача, рача! ой кароткі
Век мой чараціны!
Як жыву я ў час паводкі?
Ня відно чупрыны!
Мокну, гіну, гнуся, рача,
Пад напорам хвалі.
Хто-ж па мне ўздыхне, заплача?
Хто дасьць кроплю жалю?
Прыдзе восень, пажаўцею,
Як з тае жаўтачкі...
Вось увага, дабрадзею,
Долі тэй, лайдачкі!
А на лёдзе на падсьцілку
Палажу я косьці.
А хто прыдзе на магілку,
Што на тым пагосьце?
Рача! рача! ёсьць на сьвеце
Многа нешчасьлівых.
Вылезь з норкі, рача-квеце:
Смутак твой—ня дзіва".
І заплакаў тут той чароцік горды,
А наш рак—ні шэп!
Ну, як камень, цьвёрды.

*(Канец будзе).*

# АНАТОЛЬКА-ПІОНЭР.

Сумна Анатольку было сядзець у курнай хаце. Сёньня збор атрада, яго даклад. Як выбрацца? Што-б тут такое прыдумаць? Яшчэ-ж нават толькі ўчора біла мяне матка, за тое, што позна прышоў да хаты. Ну й балела-ж... сесьці ня мог, але затое, як цікава было на піонэрскім вечары! Колькі гульняў... сьмеху!.. Не, я павінен быць, хай сабе б'юць, але я павінен быць на зборы, мой даклад...

Анатолька толькі чакаў таго часу, калі прыдзе з фабрыкі яго матка; сягоньня субота,—прыдзе раней. Анатолька так захапіўся дакладам, што і ня бачыў, як прышла матка.

— Чаго сядзіш, нічога ня робіш? Куры ўсе грады ў агародзе павыгрэбвалі. Колькі разоў я табе казала, што трэба выганяць!

— Мама, мамачка я іх выганяў шмат разоў, а яны праз плот—ізноў на грады.

— Выгані на вуліцу сьвіньню, хай сабе паходзіць, толькі глядзі, каб куды-небудзь не залезла.


Дзяўчынка -- пастушка.

Надыходзіў вечар. Ужо сёмая гадзіна. А сёмай гадзіне збор. Спазьняцца нельга. У галаве б'юць непакойна думкі, як збавіцца ад сьвіньні. Эх, што будзе, то будзе... Націснуў раз, другі і—дзьве дошкі ад плоту ляжаць на зямлі. Загнаў сьвіньню ў агарод Анатолька і кінуўся ў цэнтр гораду на збор атрада. Хай сьвіньня пасецца ў агародзе, пад'есьць і прыдзе да хаты.

У атрадзе ён забыўся пра ўсё. Толькі крыкі таварышоў напаміналі яму аб тым, што матка біла яго за тое, што позна прышоў учора.

— Пачакайце, хлапцы, і так неяк нядобра, а вы яшчэ тут лезеце, прыстаеце.

Любілі ў атрадзе Анатоля, самы актыўны піонэр быў. Толькі адно кепска, што матка такая—ня пускае ў атрад. Старыя рабочыя матка й бацька былі забіты рэлігіяй і яны ніяк не маглі згадзіцца з тым, каб і Анатолька іх быў гэткім самым, як яго старэйшы брат, якога выгнала матка з дому, калі даведалася, што ён паступіў у комсамол.

Даклад Анатолька зрабіў добра. Шмат было спрэчак, разглядвалі другое пытаньне: каго пасланць ад піонэраў для прывітаньня герояў працы, якіх будуць у наступную нядзелю вітаць за іх доўгую працу па 25 і болей гадоў.

— Анатольку! Анатольку паслаць! Ляпей яго ніхто ня зробіць прывітаньня!

І прыемна было яму выканаць гэткі абавязак, але думка, што ізноў будуць біць, непакоіла яго.

— Таварышы, я не магу вітаць, матка мяне ня пускае, мяне б'юць за тое, што я хаджу ў атрад. Учора білі, сёньня будуць ізноў.

— Нічога, мы пойдзем усім атрадам прасіць тваіх бацькоў, каб пускалі цябе ў атрад.

— Не, ня трэба йсьці, матка ня любіць піонэраў, яшчэ больш будзе пасьля біць...

Падыходзячы да хаты, пасьля збору, Анатолька ізноў зудумаўся аб тым, як балюча будуць біць за тое, што пашоў з хаты, а галоўнае, што нарабіла сьвіньня на градах? Нясьмела ўвайшоў ён у хату, матка з бацькам сядзелі і чакалі яго.

— Ну, дзе цягаўся, валацуга? Я табе колькі разоў гаварыла не хадзіць у атрад. Чаму вас там вучаць, над богам зьдзекавацца?! Станавіся на калені і стой цэлую ноч, а заўтра ўсыплем табе.

Цэлую ноч прастаяў Анатоль, а раніцай матка нікуды ня пусьціла.

Нек аднаго разу матка прышла да хаты заплаканая і не магла цэлую ноч супакоіцца. Колькі не стараўся Анатолька даведацца, чаго яна непакоіцца—яму так і не ўдалося гэтага зрабіць.

Перад нядзеляй Анатолька падрыхтаваў прамову для прывітаньня герояў працы.

У нядзелю ён папрасіўся ў маткі пайсьці нібыта ў царкву. Матка ахвотна пусьціла яго і сама нават сьпяшалася кудысьці, сама непакоілася.

Калі прачыталі сьпіс герояў працы, Анатолька ня верыў сабе, яму здалося, што сярод іх—імя яго маткі. „Што-ж гэта такое, матка так ня любіць бальшавікоў, а тут раптам у клюбе!“.. Калі вышлі на сцэну ўсе героі працы, Анатолька сярод іх пабачыў сваю матку. Для яго было незразумела, як магла матка не сказаць нікому аб гэтым дома. Дык вось зачым яна непакоілася.

Анатольку далі разам з прывітаньнем аддаць героям працы і статуэтку Ільліча.

Калі далі слова Анатольку, то ён ад радасьці і перажываньняў расплакаўся.

— Таварышы, вітаю вас ад імя атрада юных піонэраў. Калі мяне ў атрадзе выбіралі вітаць вас, я ніколі ня думаў, што між вас будзе мая матка. Анатолька глянуў на матку, якая залівалася сьлязьмі і казаў далей:—Мы—ваша зьмена, якая заменіць вас у далейшай барацьбе з буржуазіяй. Ад імя саюзу рабочых хімікаў вось гэтая фігурка дарагога настаўніка Ільліча хай будзе вам успамінам таго, які цяжкі шлях прайшлі вы. Мы піонэры—**заўжды гатовы!..** падхапіла некалькі галасоў.

Слова для адказу ўзяла матка і са сьлязамі на вачох расказала пра сваё цяжкае мінулае жыцьцё. У заключэньне матка Анатолькі сказала:

— Цяжка мне было, калі мае дзеці йшлі пановаму шляху, я думала, што гэта толькі крыўда... аднаго выгнала, другога ня пускала. Але цяпер я другая. Цяпер бачу я праўду. Толькі мы сваімі мазолістымі рукамі зможам пабудаваць сваё жыцьцё; не багі, не цары не дапамогуць нам—усё гэта мана... я аддаю свайго сына вам, выхоўвайце і зрабеце яго карысным для справы рабочай клясы. Я сама колькі хопіць сілы буду працаваць. Досыць крыўды,—няма ніякіх багоў; колькі я не малілася, а карысьці мала; сваімі рукамі не запрацуеш, дык і бог не дапаможа.

Усе прысутныя рабочыя зьдзівіліся гэткай перамене. Раней яны ведалі яе, як добрую гаспадыню, як добрую работніцу і рэлігійную жанчыну. Болей за ўсіх радаваўся Анатолька, калі ён з маткай ішоў да хаты. Анатолька пытаў ня раз у маткі:

— Мама, мне можна хадзіць у атрад ці не? А калі я запішуся ў комсамол—ня выганіш мяне?

— Не, не, ідзі ў атрад, ідзі ў комсамол, толькі не ў царкву.

**Е. Ча—цкі.**

# Марш акцябрат.

Мы ідзем з вясёлым маршам
Дзеці сёл і гарадоў.
На падмогу брацьцям нашым
Піонэр—заўжды гатоў!

Прыпеў:

Гэй, атрад акцябрат,
Станавіся ў пары!
Стройна ў рад
На парад!
Узьнімай штандары!

Сонца весела праменьмі
Разьліваецца ў палёх.
Нашым брацьцям па-замежным
Прывітаньне сваё шлём.

Прыпеў...

Гэй, вы дзеці, хто ня з намі,
Хто да нас шчэ‘ ня прышоў,
Клічам вас: ідзеце к нам вы,
Ў шэраг слаўных юнакоў!

Прыпеў...

Весялей за намі сьледам,
Крыкнем сотняй галасоў:
Да змаганьня з старым сьветам
Піонэр—заўжды гатоў!

Прыпеў...



# Май.

На зялёных, чыстых крылах
Прыляцеў чырвоны Май,
Абудзіў муры і сёлы,
Паказаў свой твар вясёлы,
Асьвяціў пахучы гай.
Кіну шчыра пук праменьняў,
Люд працоўны прывітаў,
Скалыхнуў усе заводы,
Закруціў марскія воды,
Працы сьцяг у высь падняў.
Шпарка, з імпатам гарачым,
Будзем шчасьце будаваць.
Хай зьвіняць натхненьня струны,
Пойдзем шчыльна да Камуны,
Шлях шырокі пракладаць.

**Яз. Вір.**

# У непагоду.

Сонца ужо непаказвалася: блакітнае неба было зацягнута чорнымі хмарамі. Усё было нейкае злоснае. Алешнік і дубы, якія расьлі абапал ракі, якая срэбралітай істужкай бегла у нязнаную даль, злосна шумелі сваім парыжэўшым лісьцём, і толькі, калі прабягаў вецер, іх шум зьліваўся ў адзін гул.

Недалёка ад ракі, на сенажаці стаялі стагі, парыжэўшага ад непагоды сена, а каля іх сумныя, з апушчанымі галовамі, стаялі і ляжалі чарадой каровы. Толькі некаторыя, больш галодныя, час ад часу падкрадваліся да стагоў, каб шчыпануць кавалак сена.

З пад аднаго стогу, з ямкі выглядвала калматая галава пастушка, які быў вельмі рады, што папаў у такое цёплае месца. Толькі часамі выцягваў ён галаву, каб паглядзець на кароў. І як толькі якая небудзь з іх падкрадвалася да стагоў, ён крычаў на яе колькі хапала сілы, і гэтак адганяў яе ад стогу.

Хмары паўзлі і паўзлі; цярушыў дробны, але халодны асеньні дождж... Хутка чорная хмара зачыніла ўсё неба. Дождж паліў мацней. Каровы ўжо не ляжалі і не стаялі, а йшлі і йшлі... І як пастушок ня крычаў на іх, усёроўна яны ня слухалі яго. Вецер зьбіваў яго з ног, а вада раўчукамі кацілася з яго вопраткі...

— Бух! Бух! Бух!—нясьліся выстралы з другога боку ракі... Пастушок аглянуўся. Каля яго стаяў высокі, у чорнай вопратцы чалавек.

— Пакажаш ім у другі бок,—сказаў ён. І пакуль пастушок апамятаваўся, незнаёмы прапаў.

— По-о-о-дай чо-о-о-вен!—чулася з таго боку ракі... Грымелі стрэлы.

Вецер і дождж ня сьціхалі. Захістаўся стары падгніўшы дуб, затрашчалі яго слабыя карэньні, кінуўся ў адзін, другі бок, як быццам п‘яны, і ўпаў на зямлю. З другога берагу да пастушка з вінтоўкаю ў руках бег польскі жаўнер. Ён крычаў і страляў, але вецер адносіў яго словы ад пастушка ў другі бок і толькі ён чуў выстралы. Пад пагрозаю вінтоўкі пастушку давялося вярнуцца на бераг, дзе ляжаў човен.

Страшна было ехаць у такую пагоду, калі кожную хвіліну можна было перавярнуцца разам з чоўнам у бурлівую і неспакойную раку. Ускочыўшы ў човен, ён адпіхнуў яго ад берага. Рэчка, як трэску, кідала і нахіляла то ў адзін, то ў другі бок яго човен, і як ён ні стараўся пад‘ехаць пад бераг, усёроўна вада адносіла яго назад. І толькі пасьля доўгай язды прыстаў ён да берага. Там стаялі узброеныя з ног да галавы польскія жаўнеры і з нейкім страхам глядзелі на злосную раку, на лёгкі човен... Як толькі човен пад‘ехаў да берага, чалавек шэсьць ускочыла ў яго і моцныя жаўнерскія рукі узялі ў пастушка вясло. Яны з страхам глядзелі на раку, якая злосна кідала то ў адзін, то ў другі бок човен, як-бы хочучы праглынуць яго разам з ворагамі сваёй бацькаўшчыны. У гэты час падышоў да пастушка старэйшы паляк-жаўнер і запытаў:

— Ты не відзял у яку строну побег от недаўно едын чловек?

Перад вачыма пастушка стаяў вобраз высокага, незнаёмага чалавека. „А, дык гэта яны за ім гоняцца“, кінулася яму ў галаву. Цяпер ён ужо здагадаўся, што значаць словы: „Пакажы ім у другі бок, калі цябе запытаюць“. Так ён і зрабіў. Палякі пабеглі ў той бок, куды накіраваў іх пастушок. Пастушок сеў на перадзе чоўна. Ад палякоў човен затапіўся ў ваду амаль-што не па самы край. Хвалі адна за аднэй налятала на човен і пырскі вады ляцелі і падалі на жаўнераў. Чым бліжэй яны пад‘яжджалі да сярэдзіны ракі, тым усё болей і болей вада ў чоўне павялічвалася, човен з кожнай хвілінай ішоў усё болей і болей пад ваду. Крык і ёнк разносіўся далёка па рацэ. Палякі лезьлі адзін на другога і з крыкам тапіліся. І бурлівая рэчка ўсё змывала і змывала іх з сваёй паверхні. Толькі адзін пастушок яшчэ плыў і плыў. Сыну ракі ня страшны былі хвалі. Але рака не супакойвалася, яна злосна кідалася на пастушка і ён пачаў тануць... бяз сілы, бяз сьлёз і крыку... Але раптам нейчыя дужыя рукі абхапілі яго. І ён болей нічога ня помніў...

Калі ён адчыніў вочы, то нават зьдзівіўся гледзячы навокала. Ён ляжаў у нары стога, выкапанай ім самім, а каля яго прытуліўшыся да сена сядзеў той самы „незнаёмы“ у чорным адзеньні чалавек.

**Алесь Савіч.**

# Наша жыцьцё

Янка Кашкель

## Як мы сьвяткавалі 1-ае мая.

*(Атрад пры НКА).*

1 мая ў доме Працасьветы адбыўся вечар. Пасьля дакладу *т. Баліцкага* аб ролі і значэньні сьвята, піонэры давалі ўрачыстае абяцаньне. Мясцком Наркомасьветы афіцыяльна прыняў над намі шэфства і паднёс у падарунак сьцяг.

2 мая наладзілі вечар у Чырвонай арміі з удзелам піонэраў. Зрабілі выезд у вёску да падшэфнага атраду.

І. З.

## З жыцьця Старобінскага атраду.

### Наша бібліотэка.

Яшчэ ў мінулым годзе мы набылі маленькую бібліотэчку. Выбралі бібліотэкара і праца пашла належным крокам. Акрамя піонэраў у бібліотэку запісалася некалькі неорганізаваных дзяцей.

### З ахвотай прымаюцца за карысную працу.

Пры нашым атрадзе імя *Каменева* организаваўся атрад акцябрат.

Дзеці, заместа таго, каб лётаць за сабакамі, займаюцца карыснай працай. Усяго акцябрат налічваецца 35. У хуткім часе мы думаем организаваць яшчэ адну групу акцябрат.

### Жыва праводзім сходы.

Да гэтага часу ўсе нашы сходы, таксама атраду, праводзіліся суха і былі ня цікавымі.

Зьбіраліся, слухалі чый-небудзь доўгі нудны даклад і разыходзіліся. Цяпер сходы праходзяць жыва і весела. Даклады робяцца ў форме цікавых пытаньняў. Пасьля гэткіх дакладаў робяцца гульні і сьпяваюцца песьні. Дзякуючы такой пастаноўцы справы, неорганізованыя дзеці ўсё болей і болей прыходзяць на нашы сходы.

Варшал М. Рыклін Г.



## Чакайце, дзядзькі?..

(Сапраўднае).

*(м. Капыль, Случчына).*

— Васіль, якраз-жа ты павадыр піонэраў, растлумач мне што гэта азначае сабою слова „Піонэр". У мяне два сыны ў гэтых піонэрах, а я нават і ня ведаю, што гэта і да чаго... Ды і дачка хоча яшчэ запісацца ў піонэры, дык я й ня ведаю ўжо што і рабіць з імі...

— Так, дзядзька, мы ў хуткім часе зробім сход піонэраў сумесна з бацькамі. Там вы аб усім і даведаецеся, а цяпер мне вельмі-ж няма часу,—адказаў павадыр Васіль.

— А калі гэта будзе?—запытаў Сьцяпан.

— Прыблізна ў чацьвер ці ў пятніцу, добра ня ведаю, але на гэтым тыдні будзе абавязкова.

— Ну, будзем чакаць,—адказаў Сьцяпан і пашоў...

Павадыр Васіль застанавіўся і падумаў:

— Не, тут нешта ня тое... Ужо цэлы год, як мы просім адпусьціць клюб для таго, каб сумесна з бацькамі правесьці сход, пагутарыць аб нашых дасягненьнях і недахопах. Але ўсё гэта так і застаецца, як было раней. Загадчык будынкам і думаць ня хоча, каб дапамагчы піонэрам. Давай хіба яшчэ раз зайду. Мо' цяпер, што небудзь ды выдзе?...

Набраўся Васіль сьмеласьці і пашоў.

— Дзядзька, а дзядзька, няўжо вы нам не дасьце памяшканьня? На адзін толькі вечар, каб правесьці сумесны сход з бацькамі...

*(Гл. ст. 13-ю).*

## Вечар.

Дзе зоркі мігаюць у высі далёкай,
Дзе вольхі раку абнялі—
Ня шастаюць хвалі на рэчцы глыбокай,
Ніштo не кране цішыны.

Дзе лес за крынічкай цямнее кудлаты,
І ночкай вясна апранутая сьпіць—
Месяц узьняўся у высь за дубровы,
Каб трохі зямлю асьвяціць!

Піанэр Туш.

Заг. будынкам, доўга не чакаючы, адказаў:

— Сёньня заняты, заўтра заняты, пасьлязаўтра заняты... заняты, заняты...



...Сёньня заняты, заўтра заняты...

І злосна глянуўшы на Васіля, кудысьці пабег.

Паціснуў плячыма павадыр і сказаў сябе: „Чакайце, дзядзькі, пакуль будынак свой зробім, або пакуль зьлітуецца над вамі і намі заг. будынкам!

**Васілёк.**

## Дапамаглі бяспрытульным.

(*м. Дукора*).

У нашай школе зрабілі збор для бяспрытульных. Сіламі вучняў быў зроблены вечар-спэктакль, на якім было шмат народу. Усяго сабралі для бяспрытульных 20 рублёў.

**Рыклін.**

## Атрад імя „Маладняка“.

(*Мяляціцкі ІІ-гі атрад, Калінішчына*).

Наш атрад, які прыняў на сябе ідэёвае кіраўніцтва арганізацыі „Маладняк“, распачынае культурную працу. Атрад мае на мэце вывучэньне бел. маладняцкай літаратуры і выяўленьне з сваіх шэрагаў новых маладых працаўнікоў на ніве культурнага ўздыму рабоча-сялянскай Беларусі.

Атрад мае сувязь з ЦБ „Маладняка“.

**Піонэр.**

## Піонэры на фабрыцы.

(*Нова-Барысаў, 14 атрад*).

Некалькі дзён таму назад 14-ы Нова-Барысаўскі атрад зрабіў на фабрыцы „Чырвоная Беразіна“ для неарганізаваных дзяцей вечар. Вечар пачаўся сходам. Прымалі ў атрад новых сяброў. Пасьля сходу была пастаўлена п‘еса.

**Гуська.**

## Успаміны аб Замкавай гары.

(*Колектыўны твор вучняў 3 кл. Д.-П. школы пры БДУ.*

У Менску, на захад ад Ніскага рынку (на правым беразе ракі Сьвіслачы) знаходзіцца Замкавая гара. Выгляд гэтай гары вельмі няпрыгожы. Яна ўся аголеная, абсыпаная, застроеная няпрыгожымі будынкамі. Нельга і падумаць, што шмат гадоў таму назад тут стаяў прыгожы замак.

З усходу ён глядзеўся ў празрыстыя крышталёвыя воды возера, на месцы якога цяпер стаіць Ніскі рынак. З поўначы замак абмывала мнагаводная рака Сьвіслач, за якой расьцілаўся густы хваёвы лес. З захаду цягнулася непралазнае балота. З поўдня быў насыпаны высокі вал і вырыты шырокі, глыбокі роў, напоўнены вадой.

У гэткім выглядзе замак быў няпрыступным для ворага. Калі вораг наступаў, усе ваколічныя жыхары са сваім дабром хаваліся ў замак і адтуль бараніліся.

Прашло шмат гадоў. Замак адслужыў сваю службу. На месцы замка, а таксама наўкол яго, разросься вялікі горад, і толькі назвы вуліц: Замкавая, Падзамкавая, Завальная ды назва самай гары напамінаюць нам аб далёкім мінулым.

## Бяроза.

(*Апав. вучня В. Казлоўскага*).

Сумна жылося бярозе ў чыстым полі пры дарозе. Людзі езьдзячы на конях моцна ўбілі зямлю ля бярозы.

Кепска было расьці беднай бярозе. Гнулася яна лёгкаму ветрыку, які жартліва перабіраў яе прыгожае лісьцё.

Так і няпрыкмеціла бяроза, як пражыла яна сем гадоў у полі адзінокай. На васьмы год на ёй зьявіліся вельмі прыгожыя каточкі, якія ў восень асыпаліся навокал яе.

На другі год вясною насеньне прарасло і пачалі расьці дужа пекныя дрэўцы. Праз некалькі часу селянін Андрэй з сынам прыехалі араць сваю палоску поля. Селянін Андрэй запрог коняй і пачаў араць сваю ніву. Сын Андрэя, бегаючы па сваёй палосцы, убачыў вельмі прыгожыя расьліны. „Тата, тата“,—паклікаў сын бацьку. Андрэй падышоў да сына

(гл. ст. 14-ю).

### Памяці ленскага растрэлу.

Ой-жа сумна шумела тайга,
І балюча, балюча шумела...
Па-над Ленай разьлёгся туман,
Груганьнё адусюль наляцела...

Кедры гулкім стагналі гальлём,
Надрываліся, плакалі елкі...
Раптам лёскат і шум навакол,
Як вінтоўкі ў тайзе загрымелі.

Недзе крык ўзварухнуўся жу-
[дой,
Недзе кроў белы сьнег чырва-
[ніла...

. . . . . . . . . . .

Сосны пелі ім „Вечны спакой“...
Моцным жалем тайга галасіла!

Піонэр **Зьмітрок Астапенка.**



і спытаўся:—„Што гэта такое“? „Татачка, гэта-ж мабыць, гэтай бярозкі дзеткі“. Андрэй вырваў адну расьлінку, разгледзеў яе ды кажа: „так мой, сынок, гэта маладыя бярозкі“. „Дык мы можа заставім гэты кавалак зямлі гэтым маладым бярозкам?“

Бацька згадзіўся на прапанову сына.

Праз некалькі год бярозы ўзрасьлі і тут быў з іх прыгожы гаёк.

Радавалася старая бяроза гледзячы на сваіх дзяцей.

Старая бяроза расказвала сваім дзецям, як ёй кепска жылося. „Цяпер,—кажа бяроза, я спакойна лягу на зямлю ад моцнага ветру“. Усе маладыя бярозы зашумелі быццам загаварылі: „недапусьцім ветру, недапусьцім“.

Вучань В. Казлоўскі.


Гульні акцябронка.

# Чытачы аб сваёй часопісі*).

## Некалькі слоў аб нашай часопісі.

Усе чытачы, яскрава бачаць, як з кожным нумарам „Беларускі піанэр“ пасоўваецца наперад. Пачынаюць браць удзел лепшыя пісьменьнікі, паляпшаецца зьмест, тэхніка, малюнкі і г. д.

Чаго-ж не хапае яшчэ ў часопісі?

— Яшчэ многія піонэры, асабліва гарадзкія, ня прызвычаіліся лічыць „Б. П.“ *сваёй часопісьсю*. Таму і кульгае трохі падпіска. Гэта залежыць, помойму, ад аддзела „Наша жыцьцё“. Гэты аддзел самы важны ў часопісі. Ён павінен, як сьлед, адбіваць жыцьцё і працу піонэраў гораду і вёскі. Яго трэба абавязкова *пашырыць*, не абмяжоўвацца зьмяшчэньнем 10-15 допісаў, а дадаць яшчэ $1^1/_2$-2 старонкі. Трэба памятаць, што піонэр, перш за ўсё, вымагае ад часопісі ўсебаковага высьвятленьня піонэрскай работы. Вось памойму прычына, з адхіленьнем якой, цікавасьць да часопісі павялічыцца.

Яшчэ трэба сказаць, што рэдкі (раз у месяц), і часамі са спозненьнем, выхад часопісі таксама ня можа здавальняць, што ў сваю чаргу адбіваецца на подпісцы. Сподзяемся, што рэдакцыя пастараецца зьнішчыць гэтыя заганы, і праз гэта значна палепшыцца „Беларускі піонэр“.

І. Зэльцар.

## Выпісвайце „Беларускі Піонэр“.

Піонэры! Нашай адзінай дзіцячай часопісьсю зьяўляецца час. „Беларускі Піонэр“, з якога мы і павінны атрымаць усё неабходнае для нашай працы. „Беларускі Піонэр“ — добры падручнік кожнаму атраду! На сваіх старонках часопісь зьмяшчае шмат багатых матар‘ялаў. Калі кожны наш атрад будзе выпісваць сваю часопісь, то тіраж „Беларускага Піонэра“ павялічыцца і ён будзе выходзіць два разы ў месяц.

*Дык няхай кожны атрад выпісвае часопісь „Беларускі Піонэр“, кожны піонэр чытае сваю часопісь, і кожны піонэр будзе яе дапішчыкам!*

А. Малевіч.

*) Рэдакцыя просіць Таварышоў прысылаць свае думкі і пажаданьні часопісі.



## Інстытут соцыяльнага перавыхаваньня.

Інстытут соц. перавыхаваньня—гэта школа, якую павінна прайсьці кожнае дзіцё, за якім маюцца тыя ці іншыя недахопы (дзеці — злачынцы). Пры інстытуце ёсьць чатыры майстэрні: кравецкая, шавецкая, слясарная і сталярная. Апрача гэтага ў інстытуце ёсьць 5 клясаў, у якіх кожны дзень ад 9 гадзін раніцы да 12 дню ідуць заняткі. Клясы абсталяваны добра. **П. Чупрык.**




Вучні ІСП ў сваім фізычным габінэце за працай.

# На мяжы.*)

I.

Бяжыць трушком наш конік. Трасе крыху, але на сене гэта ня так моцна адчуваецца. Мы цясьней прыціскаемся адзін да другога,—холадна, пырскае дождж. Гутарым з Пятрусём Ахранавым, нашым правадніком. Ён—тып чыстакрэўнага беларуса. Русыя валасы, блакітна-шэрыя вочы. У гутарцы хутка бяжыць час. Мэта нашай экскурсіі не за гарамі. Я аглядваю акаляючы нас ляншафт. Невялічкія ўзвышшы пакрыты хваёвым лесам, лугі, па якіх пасуцца каровы і авечкі. Усюды лясы! На болш сухіх месцах—сосны і ельнік, на сырых—срабрыстыя бярозкі, лаза, кусты... У гэтым зялёным раздольлі туляцца хутары, шэранькія задуменныя вёскі...

Скрыпяць, сьпяваюць штосьці колы калёсаў.

„Ну, хлопцы, пара",—кажа Пятрусь. Я азіраюся. Сьпераду бачна вёска Шубнікі.

Мы злазім з калёсаў, выражаем сваю ўзьдзячнасьць тав. Ахранаву і йдзем далей.

II.

На досыць высокай горцы ўзвышаецца памяшканьне „кардону". Глытаем, як кажуць, шагі, перакідваемся жартамі, звонкі сьмех... Зноў жарты... Падыходзім бліжэй.

**Кардон заставы №...**

На пляцоўцы перад кардонам — пагранічнікі. На тэй-жа пляцоўцы портрэт Ільліча, выкладзены з каменьняў. Недалёчка ад портрэту—маўзалей, пабудаваны з квадратовых плітак зямлі. Вакол кардону—густы лес, зямлянкі, будкі для варты... Начальнік заставы пашоў кудысьці. Чакаем. Вярнуўся, спытаў у чым справа. Тлумачым. Паказваем пропуск. Нам даюць чырвонаармейца Алеся Рыбіна, абавязак якога—паказаць нам граніцу.

III.

Лес... Вакол—сосны. Шагаем. Сьпераду Рыбін. За ім Леў Мікалаевіч—наш настаўнік. Рыбін расказвае пра жыцьцё-быцьцё пагранічнікаў...

У мінулым годзе белыя абстрэльвалі з кулямётаў нашу заставу. Паўтара месяцы чырвонаармейцы былі на „чэку", адважна абаранялі граніцу. Спаць прыходзілася рэдка калі...

Выходзім на лужайку... Рыбін падымае руку і кажа: „Бачыце, хлопцы, тую вёску?"

— Бачым.

— Гэта — Каленкі. На самай мяжы... Наша. У шагох 100 ад вёскі пасьвіліся каровы і некалькі коняй.

— Там—Польшча?

— Польшча.

— Дык гэта польскія каровы?

— Так, польскія.

Маўчым, ідзем наперад.

— А вось, таварышы, вёска Лепшыцы, польская,—кажа Рыбін... Перад намі—ціхая панурая вёсачка. Шэранькія хаткі цiснуцца адна да другой. Быццам спужаліся нечага!.. А над гэтымі шэрымі хаткамі такое-ж самае шэрае і панурае неба... Спушчаемся ў лагчыну. У некалькіх кроках ад нас—дротавае загараджэньне. Гэта—граніца.

— А дзе, таварыш, нашая варта?

Рыбін ухмыльнуўся.

— Шукайце.

Мы аглядаем ваколіцу. Нікога няма. Толькі шэраг сьсечаных хвояў ляжыць на зямлі. Мы зразумелі. Варта хаваецца ў зеляніне і адтуль наглядае. Рыбін маўчыць. Ідзем далей.

— Вось, хлопцы, нэйтральная зона.

Два слупы. На адным—„бялы ожэл" Польшчы. На другім—„БССР".

На недалёкай адлегласьці ад дротавага плоту ўзвышаецца над палямі „пляцоўка"—месца начовак польскіх жаўнераў. Хата падобна крыху на сялянскую. Воддаль—стройная бярэзіна з голымі яшчэ галінкамі. Крыху далей—сасновы бор... Вакол ні душы. Ціха...

— Калі белыя абыходзяць граніцу?

— Ноччу. Бродзяць ціха, ціха, як цені. Ня чуваць нават...

Рыбін маўчыць з хвілінку, потым...

— Здаецца ўсё паказаў. Пара і назад.

Ідзем. Лес. Вакол—сосны. Весела...

**В. Палякоў.**

---

*) Уражаньні вучня, удзельніка экскурсіі на мяжу.

# ГУЛЬНІ.

## БАРАЦЬБА З МАХНО.

*(Масавая піонэрская гульня).*

У гэтай гульні можа прымаць удзел любы лік атрадаў. Трэба імкнуцца ўцягнуць, як можна болей неорганізаваных дзяцей. Тэма для гульні ўзята з часу грамадзянскай вайны на поўдні.

### Удзельнікі гульні.

60 проц. удзельнікаў—рабочыя. Апошнія 40 проц Махноўцы. Сакратар Парт. Камітэту. Старшыня ЧК. Начальнік чырвоных атрадаў. Махно. Атаманы бандытаў. Начальнікамі і другімі кіраўнікамі добра было-б мець піонэр - працаўнікоў (павадыры, або памоцнікі). Вялічыня мясцовасьці залежыць ад ліку прымаючых удзел. Трэба выбраць месца, дзе маецца лес з маленькімі і адной вялікай палянкай для мітынгу рабочых („горад“). Добра, калі ў гэтай мясцовасьці маецца роў і другое месца з цяжкімі выхадамі, куды можна было-б загнаць Махноўскія банды.

### Апісаньне гульні.

Рабочыя вялікага мэталюргічнага заводу зьбіраюцца на мітынг, зроблены акруговым камітэтам РКП(б). Сэкратар укому высьвятляе задачы пролетарыяту ў сувязі з перамогай над Дзенікіным і усеагульнай разрухай. Можна напісаць лёзунг „*Далоў разруху*“. У гэты час на паляну ўбягае старшыня ЧК і гаворыць, што банды Махно ізноў пачалі нападзеньні і пагражаюць гораду. Ён заклікае ўсіх рабочых стаць пад вінтоўку. Сэкратар Парт. Камітэту галасуе прапанову організаваць тут-жа на месцы атрад і выступіць супроць Махно. Прапанова прымаецца. Тут-жа робіцца формаваньне атрадаў (атрад, два-тры зьвяны). Выбіраюцца начальнікі атрадаў, агульнае кіраваньне бярэ на сябе старшыня ЧК. Робіцца савет камандзіраў, пасьля чаго кожны атрад атрымоўвае заданьне. Тым часам Махноўскія банды раскідваюцца на атрады і пачынаюць ісьці наперад з тэй мэтай, каб рабочых абхінуць і застаць для апошніх нечакана. Але гэта ім не ўдаецца, дзякуючы разьведцы чырвоных. Адрады чырвоных разьбіваюць банды Махно, а астатніх заганяюць у роў, дзе тыя здаюцца. Тады ўсе разам з сьпевамі зьвяртаюцца на палянку, дзе сэкратар Парткому кажа кароткую прамову, у якой тлумачыць ролю „*Махно*“ у грамадзянскай вайне.

*Тэхніка гульні:* Чырвоныя адрозьніваюцца ад белых павязкай на рукаве, яе лёгка можна сарваць. Папяровы значок маецца і ў махноўцаў (белага колеру). Сарваны значок азначае сьмерць, кусочкі—раненьне. Забітыя застаюцца на месцы да тых часоў, пакуль бойка пойдзе далей. Тады яны заходзяць у раней вызначанае месца. Раненых (у каго парваны значок) выносяць сгае таварышы.

Павязкі і значкі прымацоўваюцца у часе фармаваньня атрадаў, пасьля мітынгу; дзеля гэтага ў кожным зьвяне павінна быць іголка і нітка.

Махно дзейнічае невялікімі атрадамі. У вадным з іх знаходзіцца сам „бацька Махно“.

Чырвоныя дзейнічаюць двома-трома вялікімі атрадамі, кожны атрад праз разьведку вышуквае банду, разьбівае яе і пераходзіць да другой. Дзякуючы такой тактыцы, банды Махно разьбіваюцца адна за другой. Паміж атрадамі падтрымоўваецца пастаянная сувязь. У выпадку нападу некалькіх банд на атрад, другі атрад прыходзіць яму на дапамогу. Гульня заканчваецца, калі ўсе банды разьбіты або загнаны ў роў, альбо нават калі захоплены ў палон Махно.

*Падрыхтоўка да гульні:*—Перш за ўсё, колькасьць удзельнікаў гульні разьбіваецца на чырвоных і махноўцаў, потым адшукваецца месца і пільна вызначаецца адлегласьць паміж чырвонымі і махноўцамі. Падбіраецца кіруючы склад з піонэр-працаўнікоў, а пры магчымасьці і комсамольцаў (сэкрэтар укому і г. д.).

Кіруючы склад распрацоўвае падрабязны плян гульні і тлумачыць яго ўсім павадыром зьвеньняў. Загадзя трэба правесьці гутаркі ў атрадах, дзе тлумачыцца тэхніка гульні і разам з гэтым гістарычнае значэньне Махно. На гэтых гутарках трэба зьвярнуць увагу на неабходнасьць трымаць належную сувязь паміж атрадамі і дысцыпліну.

Пры магчымасьці падрыхтоўваецца аптэчка і ўсе неабходныя санітарныя прыналежнасьці, апрача гэтага, паперкі і павязкі.

*Час, які займае гульня,* залежыць галоўным чынам ад колькасьці удзельнікаў, але пры ўмелым кіраўніцтве можна пры любой колькасьці ўдзельнікаў зрабіць гульню больш менш доўгаю.

Трэба зьвярнуць асаблівую увагу на тое, каб недапусьціць пераўтамленьня удзельнікаў гульні. Працягласьць гульні азначаецца двома-трома гадзінамі.

Гэту гульню можна праводзіць пры масавым зборы піонэраў розных атрадаў, якія знаходзяцца недалёка адзін ад другога.

Такую масавую гульню можна правесьці два-тры разы за лета.

**Піонэр працаўнік.**

## СКАЧКІ.

Правесьці на зямлі раўналежныя лініі, адлегласьць паміж якімі павялічваецца, як яны адыходзяць ад першай. Удзельнікі гульні разьдзяляюцца на дзьве партыі ў дзьве калёны каля першай лініі. Па сыгналу кіраўніка ўдзельнікі пераскакваюць праз лініі, стараючыся ня стаць нагою на лінію і не станавіцца паміж лініямі. Тая партыя, якая, не зачапіўшы лініі, пераскочыць апошнюю лінію, выйграе. Калі не зачэплены лініі ўсімі ўдзельнікамі гульні, то выйгрывае партыя, якая пераскочыла раней.

Адлегласьць паміж лініямі павінна быць ня больш магчымага скачка ўдзельнікаў гульні.

**Б. Б.**

## МІШЭНЬ.

На сьцяне або на плоце нарысаваць мелам ясны невялікі кружок (мішэнь). Ад мішэні на адлегласьці некалькіх мэтраў правесьці рыску, за якой стаяць дзьве партыі ўдзельнікаў гульні. Па чарзе адзін з першай партыі, а другі з другой партыі кідаюць у мішэнь невялічкі мячык. Тая партыя, якой больш разоў пападзе, лічыцца перамогшай партыяй. Кіданьне ў мішэнь павінна быць два разы на кожнага ўдзельніка, пры чым кожны раз мяняюць рукі (першы раз—правай, другі—левай). Падлік пападаньняў робіцца пасьля другіх разоў кіданьня.

**Б. Б.**



# АБ ПІОНЭРСКАЙ ТВОРЧАСЬЦІ.

*(Гутарка з нашымі дапішчыкамі).*

У папярэднім нумары мы спыніліся на разглядзе вершаў. Цяпер пярэйдзем да іншых відаў слоўнай творчасьці.

**Аб апавяданьнях.**

Для сваіх апавяданьняў піонэры ў большасьці бяруць тэмы з сучаснага жыцьця. Усе яны прыблізна пішуць аб тым, што той ці іншы хлапчук так ці йначай убачыў атрад піонэраў, пазнаёміўся з ім і становіцца сам піонэрам. Сюды-ж уводзіцца яшчэ момант аб адносінах бацькоў да імкненьня сваіх дзяцей. Апрача гэтае тэмы, часта пішуць аб мінулай барацьбе з палякамі і г. д.



Першая тэма вельмі цікавая. У гэтай тэме шмат чаго карыснага можна знайсьці для апавяданьняў. Бяда толькі ў тым, што шмат хто з нашых дапішчыкаў-апавядальнікаў не спраўляецца з пастаўленымі тэмамі. Пісаньне выконваецца неяк суха. Часта цяжка адрозьніць звычайную корэспондэнцыю ад такога апавяданьня. Пералічэньне фактаў, што нехта там-та зацікавіўся піонэрскім атрадам, а пасьля і сам стаў піонэрам—нікога не зацікавіць. Апрача гэткага пералічэньня трэба старацца ўводзіць жывыя малюнкі, якія-б устанаўлівалі сувязь паміж апісваемымі момантамі. Трэба заглянуць у самую душу (псыхіку) сваіх герояў. Трэба даць і падставу, чаму іменна бацькі часта супярэчаць сваім дзецям, не дазваляюць ім ісьці ў атрад. Што гэтаму зьяўляецца прычынай. І наадварот: што застаўляе бацькоў прыхільна адносіцца да імкненьняў сваіх дзяцей. Гэтак сама і з героямі малюнкаў—піонэрамі. Мала таго, каб убачыць якому-небудзь хлапчуку ці дзяўчынцы атрад ды ўжо і самому пабегчы да яго. Трэба паказаць, як успрымае дзіця ў сваім разуменьні піонэрскую організацыю.

Да ўсяго гэтага трэба дадаць яшчэ тэхніку пісаньня перадачы зьместу. Трэба навучыцца добра ўладаць мовай і яе законамі і зваротамі мовы (лёгічнасьць, сынтаксычная пабудова, мастацкі бок, лёгкасьць мовы і інш.).

Тэма аб мінулай барацьбе рабочых і сялян і ўдзелу дзяцей ў ёй менш усяго ўдаецца ў перадачы піонэраў. Гэта тлумачыцца тым, што піонэры ў большасьці вельмі мала ведаюць самі аб паасобных момантах гэтага змаганьня. Яны пішуць аб тым, аб чым ужо напісана да іх у нашай літаратуры.

Новага нічога пакуль што мы ня маем у апавяданьнях дзяцей з гэтых часоў.

Якія-ж наогул пажадана-б браць тэмы для распрацоўкі нашым дапішчыкам? На гэта пытаньне цяжка адказаць у сьцісла вызначанай форме. Чаму? Таму, што тэмаў для апрацоўкі іх у жыцьці маецца вельмі багата; той хто піша, бярэ любую для сябе тэму. Тут толькі можна заўважыць адно, што трэба дапішчыку ведаць свайго чытача. Трэба ведаць літаратурныя прыёмы ў пісаньні. Дзеля гэтага больш усяго трэба быць самому знаёмым з літаратурнай творчасьцю. Поруч з тэмамі сучаснага жыцьця дзяцей, на старонках нашай часопісі друкуюцца матар'ялы і з жыцьця прыроды наогул, жывёлаў, птушак, (казкі) і г. д. Разнастайнасьць тэм абагачае зьмест часопісі. Таму нельга браць заўсёды адны і тыя-ж тэмы. Калі, скажам, ты прачытаў дзе-небудзь апавяданьне на тую ці іншую тэму і пішаш сам-жа на гэту тэму—нічога ня будзе з твайго апавяданьня. Хіба яно будзе лепш напісаным за тыя, якія ўжо ёсьць, тады толькі можна будзе яго зьмясьціць. Старайся браць такія тэмы для распрацоўкі, якія яшчэ не закрануты ні кім у апавяданьнях. Ніколі ня варта сьпяшацца, калі пішаш. Трэба вельмі ўважна адносіцца да сваёй творчай літаратурнай працы, памятуючы тое, што гэтай працай карыстаецца некалькі тысяч чытачоў. Яны вучацца на гэтым матар'яле як пісаць, выхоўваюць свой мастацкі густ, гэты-ж матар'ял дапамагае ім і ў сваёй штодзённай працы.

Аб дзіцячых п'есках і інсцэніроўках пагутарым у чарговым нумары.

А. Я.






**М. Плашчынскаму**. Спэцыяльных паштовых марак для сваіх корэспондэнтаў рэдакцыя ня мае і ня высылае іх. Шлі бяз маркі.

**М. Вярнікоўскаму**. Твой допіс аб Вялікадні ня будзе скарыстаны з тае прычыны, што ён спазьніўся.

**М. Гэрасімовічу**. Верш „На сьмерць“ ня пойдзе. Ён зусім неапрацаваны і слабы.

**Вячэсл. Нікіфараву**. Песьня „Піонэрская“ не ўдалася ў цябе. Неапрацавана. Сьпяваць яе нельга.

**Арджахоўскаму**. „Вясна“ (верш) няскладна напісана. Працуй больш над вершамі.

**М. Даўмацэню**. „Наш рост“—ня пойдзе. Прыблізна аб гэтым ужо друкавалася ў № 3. Колектыўны верш „З цемры ў піонэры“ напісаны слаба. Ён нічым ня розьніцца ад звычайнай корэспондэнцыі. Таму яго нельга зьмяшчаць у часопісе, як верш.

**Раскінду Б**. Тваё апавяданьне „Беларускі Піонэр“ атрымаў. Тэма ўзята вельмі цікавая. Бяда ўся ў тым, што ты ня змог яе добра апрацаваць. Вышла не апавяданьне, а просты допіс, дзе адзначаны той факт, што хлопчык панёс бацьком есьці і яго зьелі ваўкі. Раім табе, пакуль што лепш чытаць другіх аўтараў і пісаць допісы.

**В. Нікіфараву**. „Як Васіль стаў піонэрам“ ня пойдзе. Вельмі-ж лёгкі спосаб ты выбраў для перадачы свайго героя ў піонэры. Трэба больш прадумваць тэму.

**Я. Ер**. Для нас твая пьеса „Сенька-комунар“ не падыходзіць. Напісана яна, як і некалькі соцень такіх ужо выданых п'есак. Нічога новага ў ёй ты не даеш. Апрача гэтага, тэму ты бярэш з часу французскай рэволюцыі, чаму ніяк ня мог з ёй справіцца. Мала таго, што напісаць: „Няхай жыве“ і г. д. Трэба гэта выхапіць з самога жыцьця, пережыць гэта і перадумаць, перш браца пісаць. Агульныя выкрыкі і даўно вядомыя ў гэтчай літаратуры сужэты нічога тут не памогуць. Кнігі, якія ты напісаў, можаш перасласць Дзяржаўнаму Выдавецтву Беларусі.

**А. Салодкі**. „Янка“ друкавацца ня будзе. Апавяданьне зусім ня скончанае і зробленае насьпех. Няма асноўнай думкі, якую ты хацеў вывесьці ў сваім „Янку“. У цябе пачынаецца з таго, што хлапец не ўмеў чытаць паславянску, дык яму купілі лемантар і—усё... Так апавяданьняў ня пішуць.

**В. Барушку**. Твае вершы „День института“ і „К юбилею“ ня пойдуць. Допіс даецца ў гэтым нумары.

**К. Пушчаву**. Твой верш ня пойдзе таму, што ты шмат чаго ў ім сьпісаў з вершу М. Чарота „Комсамолія“.

**Токаленку**. Твае вершы „Першае мая“ і „Ільліч“ ня пойдуць; трэба больш працаваць над вершамі.

## Запытаньні і адказы.

### Запытаньні.

1. На колькі месяцаў выбіраецца павадыр піонэрскага атраду?

2. Што трэба рабіць, каб была добрая сувязь паміж атрадамі?

3. Ці мае права старш. вучкому бяз ведама рэдколегіі наклейваць сваю заметку на другую, калі ўжо вывесілі насьценную газэту?

4. Ці можа быць у атрадзе піонэр-комсамолец, які мае 16 гадоў, але цікавіцца працаю.

**А. Н—вы.**

5. Што рабіць з комсамольцамі, якія дурэюць на зборы атраду?

6. Ці можа піонэр гуляць у карты на сярнічкі ці на грошы, а калі не, то што рабіць з такім піонэрам?

**Астрэйка Ніканович.**

7. Калі рэдколегія насьценнай газэты зьмясьціла мой допіс, то ці можа яна на гэты-ж самы допіс пісаць адказ у паштовай скрынцы?

8. Ці можна пасылаць свае малюнкі ў часопіс „Беларускі Піонэр“.

**В. Юхновіч.**

9. Ці будуць якія-небудзь організацыі, калі ў нас будзе ўжо комунізм?

10. Калі два зьвяна займаюцца разам, ці можа адно зьвяно галасаваць за справу, якая тычыцца другога зьвяна?

**Г. Кушалеўскі.**

11. Ці будзе ў „Б. П.“ спэцыяльны куток „Насьценнай газэты“.

12. Ці мае права галасаваць павадыр або яго памочнік на зборы зьвяна?

**І. Рыўкін.**

### Адказы.

1. Кіраўнік-павадыр—вылучаецца комсамольскай ячэйкай, а не атрадам. Тэрмін яго працы не вызначаецца.

2. Аб гэтым трэба паставіць пытаньне перад райбюро.

3. Ня мае права.

4. Можа быць.

5. Паведаміць аб гэтым бюро ячэйкі.

6. Гуляць ня можа, бо гэта не дае яму ніякай карысьці. Гэткім таварышам трэба растлумачыць значэньне і карысьць другіх цікавых гульняў.

7. Калі яна зьмясьціла твой допіс і піша ў паштовай скрынцы аб гэтым-жа допісу, што ён ня пойдзе—гэтага яна ня мае права рабіць. Рэдколегія мае права рабіць свае ўвагі да допіса

8. Можна.

9. На тваё пытаньне будзе дадзены адказ у чарговым нумары (яму будзе прасьвечаны артыкул).

10. Ня можа.

11. Калі будзе шмат допісаў ад нашых корэспондэнтаў аб насьценных газэтах—будзе адведзены спэцыяльны куток.

12. Мае.

## ЗЬМЕСТ

**Е. Чарнецкі.**—Якімка аграном—апав. **Якімовіч.** Лугі квяцістыя—верш. **Кузьма Чорны.**—У падвале—апав. **А. Ч.** Сьвеціць месяць і ня грэе—песьня. **Якуб Колас.**—Рак-вусач—казка. **Чарнецкі**—Анатолька-піонэр—апав. Марш акцябрат. **Яз. Вір.**—Май—верш. **Алесь Савіч.**—У непагоду—малюнак. Наша жыцьцё: **Б. Полякоў.**—На мяжы—малюнак. **Брадоцкі.**—Як атраду рыхтавацца да лягеру - арт. Гульні. **А. Я.** Аб піонэрнай творчасьці—артык. Паштовая скрынка. **М. Лабадаеў.**—Парады павадыру зьвяна—арт. **Я. Ш.**—Як робіцца папера—арт. Жарты.

Малюнкі мастакоў—**Я. Кашкеля, Г. Гуткоўскага, А. Тычыны.**

Пасьля ўсяго гэтага наладжваюцца гульні, пасьля гульняў чытаньне якога-небудзь цікавага апавяданьня, сьпевы, купаньне і г. д.

Асаблівую ўвагу павадыр атраду (а кожны павадыр зьвяна—у сваім зьвяне) павінен зьвярнуць на недапушчэньне самавольных адлучак куды-небудзь на вёску ці купацца.

Трэба мець на ўвазе, што купацца пасьля абеда вельмі шкодна для здароўя.

Калі прадстаўляецца мажлівым, трэба захапіць з сабою кацёл невялічкі дзеля таго, каб прыгатаваць чай.

Некалькі іначай павінна рабіцца экскурсія ў вясковым атрадзе. Там у большасьці выпадкаў трэба выкарыстоўваць сьвяточныя дні.

У момант зьяўленьня грыбоў і ягад, можна зьвеньнямі, альбо і ўсяму атраду ў цэлым, рабіць экскурсіі за грыбамі і ягадамі. Там можна наладжваць кароткія гутаркі аб значэньні леса, прывучаць піонэраў і неорганізаваных дзяцей да ашчэдных адносін да лясных насаджэньняў (выпадкі, калі дзеці псуюць лес не асабліва рэдкія на вёсцы), аб піонэрах і г. д.

*Трэба прывабіць да сябе неорганізаваных дзяцей.* Пры правядзеньні і падрыхтоўчай працы да экскурсіі трэба кожнаму зьвяну даручыць прывабіць для ўдзелу ў экскурсіі некалькі неорганізаваных дзяцей. Яны таксама, як і піонэры, павінны прымаць удзел у гульнях і сьпевах.

Разам з экскурсіямі атрадаў трэба практыкаваць экскурсіі і зьвеньневыя, зьмест прыблізна такіх экскурсій той-жа самы, як і зьмест экскурсіі атраду. Аднак у большасьці зьвеньня павінны практыкаваць экскурсіі з мэтай дасьледаваньня той альбо іншай мясцовасьці, весьці падрыхтоўчую працу да атрадных экскурсій.

Пасьля правядзеньня кожнай экскурсіі, у атрадзе павінны быць зроблены падагульненьні, запісы ў дзеньніках, насьцен-газэце.

Такім чынам праводзячы экскурсіі пры належнай падрыхтоўцы і пляну мы зможам значна пасунуць наперад справу аздараўленьня піонэраў і вывучэньня мясцовага краю.

**Міхась Лабадаеў.**

# Як робіцца папера.

Кожны ведае, што токое папера. А вось, як папера робіцца аб гэтым ведае мала хто.

Гісторыя паперы пачынаецца даўно. Ужо 1200 г. таму назад паперу ўмелі рабіць у Кітаі і Японіі. Пазьней навучыліся рабіць паперу ў Эгіпце, затым і ў Эўропе.

Першая папяровая фабрыка была адчынена ў Нямеччыне ў 1290 годзе. Што-ж тычыцца Расіі, дык у ёй папяровая фабрыка была пабудавана недалека ад Масквы ў палове XVI стагодзьдзя. Але папяровая вытворчасьць пачалася ў нас толькі з таго моманту, калі ў Пецярбургу (цяпер Ленінград) была пабудавана фабрыка ў 1716 годзе.

Гадоў 125 таму назад папера рабілася выключна зануч або з астаткаў ад хлапку, цяпер паперу робяць ня толькі з ануч, але таксама, і галоўным чынам, з саломы і древам.

Старыя анучы ачышчаюцца ў асаблівых зачыненых варачных катлох, а пасьля апрацоўваюцца з мэтаю, каб анучы прынялі выгляд бясформенай масы.

Гэта ўжо робіцца ў асаблівых машынах—гогандзерах. Гэта—круглыя чаны, у якіх круцяцца дзеравяныя барабаны з нахілена ўстаўленымі нажамі. Гэтыя нажы разразаюць анучную масу, якая, апрача таго, прапускаецца пасьля праз каменныя мельнічныя жорны і, нарэшце, прамываецца асаблівымі хэмічнымі растворамі.

Але трэба адзначыць, што з старых ануч робіцца папера толькі вышэйшага гатунку, гэта затым, што ануч не хапае для вырабу той вялікай колькасьці паперы, якая патрэбна ўва ўсім сьвеце. Больш танныя сарты, асабліва газэтная папера, выраблюцца з дрэва.

Дзеля таго, каб атрымаць з дрэва больш-менш добрую паперу, трэба зьнішчыць з валакон дрэва асаблівую матэрыю—лігнін.

Да тых пор, пакуль гэтага ня ўмелі рабіць, дык папера, якая выраблялася з дрэва была, крохкаю і хутка жоўкла. Гэтым тлумачыцца і тое, што дакумэнты, якія жывуць ўжо некалькі дзесяткаў гадоў, цяпер выглядаюць жоўтымі.

Папера ў большай сваёй частцы робіцца з гэтакага дрэва: асіны, бярэзіны, елкі.

Спачатку дрэва адлучаецца ад кары, а пасьля атрыманы брус машынамі перарабляецца ў трэскі і ў апілкі. Асаблівая цёрачная машына перарабляе апілкі ў парашок. Пасьля гэты парашок вараць у созде пры вялікім ціску і прамываюць.

Тады атрымоўваецца бясформеная аднальковая маса белага колеру.

Гэта маса паступае ў фармовачнае аддзяленьне папяровай фабрыкі. Тут яе адлучаюць ад вады, сьціскаюць і сушаць.

Фармоўка паперы бывае ручная ці мэханічная. Пры ручным спосабе масу чарпаком наліваюць на мэталёвую сетку, выраўнаюць, накрываюць лямцам і, калі набярэцца шмат такіх пластоў, іх гладзяць і сушаць. Пры мэханічнай фармоўцы папера атрымоўваецца ў выглядзе доўгай істужкі, якая накручваецца на шпулькі або разрэзваецца. У такім выпадку лісты паперы выпускаюцца на мэталёвую сетку, праз якую сплывае вада.

Пасьля гэтага, папера сушыцца на нагрэтых мэталёвых валіках, рэжацца і складваецца ў дзесьці і стопы.

Ліст паперы здаецца нічога ня варт, але бяз яго нельга абыйсьціся.

Вось чаму кожны павінен ведаць гісторыю паперы, на якой ён кожны дзень піша.

**Я. Ш.**

Выданьне **НКА БССР**. Рэдактар—**Рэдколегія.**

## Жартоўныя запытаньні.

1. Было дрэва; ветрам сарвала адну літару — засталася расьліна. Якая гэта расьліна?

2. Што знаходзіцца між гарой і нізінай, між берагам і морам?

### Вопыты і забавы*).

1. Вазьмеце срэбны рубель і палажэце на яго звычайнага дажджавога чарвяка. Як і што трэба зрабіць, каб чарвяк ня мог спаўзьці з гэтага рубля?

2. Палка ляжыць канцамі на двух шклянках. Пераламеце палку так, каб не абярнуць і не сапсаваць шклянак.



Тут намалявана старая гвардыя, знайдзеце маладую.

3. Як зрабіць каб адно і тое-ж сьвежае яйцо ў шклянцы з вадою першы раз апускалася ў ваду (танула), а ў другі—падымалася наверх?

4. Як павесіць ключ на намаляваны гаплік (кручок)?



Знайдзеце на гэтым малюнку злодзея.

### Разьвязаньне задач з папярэдных нумароў.

*Беларускі Піонэр № 3, (сакавік).*

### Задачка № 2.

1) Нява. 2) Дон, 3) Вісла. 4) Цемза. 5) Неман. 6) Волга.

*) Разьвязаньні будуць зьмяшчацца ў чарговым нумары „БП“.



Знайдзеце вінаватага ў крушэньні вагона трамваю.

### Задачка № 3.

„Піонэр заўжды гатоў падмяніць сваіх бацькоў“.

### Задачка № 4.

Атрымаем чатыры словы: смак, мова, авёс, каса.

### Рэбус.

*(Горана).*

„Пішы ў сваю часопісь!“.

Разьвязалі: **Р. Бажок і Я. Вішнякоў**.

*Бел. піонэр № 2.*

### Загадачны малюнак, дзе трэба знайці акуратнага, прыкладнога хлапца.

Трэба малюнак перавярнуць дагары, тады будзе відаць чысты, акуратны хлапец. Канец палена—галава хлапца.

Адгадаў **К. Шавель.**



### На лекцыі.

Сын нэпмана:—Што гэта вы, т. настаўнік, усё аб рабочых і сялянах... а аб нашым-та браце—ні слова.

Настаўнік:—Хутка, хутка... аб вашым браце будзе сказана апошняе слова...



Менск, 1-ая Дзяржаўная друкарня. Заказ № 2806. У ліку 2.000 экз. Галоўлітбел № 18125.